*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.) ◆ 8(64) ◆ 26 лютага 1992 г. ◆ Кошт 20 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)

## ПОСТУП ТЫДНЯ

*СТАТЫСТЫКІ ПАДВЯЛІ ВЫНІКІ МІНУЛАГА ГОДА ДЛЯ НАШАЙ РЭСПУБЛІКІ. ЯКІЯ ЯНЫ? ПРЫБЫТАК ДЗЯРЖАВЫ ІМКЛІВА РВАНУЎ УВЕРХ — АЖ ДА 26 МІЛЬЯРДАЎ РУБЛЁЎ. ВЫВОЗЯЦЬ ГРАБЕЖНІЦКІЯ ЦЭНЫ! ЗАТОЕ ВЫТВОРЧАСЦЬ ПРАДУКЦЫІ ПАДАЕ.*

*У вёсцы валавы аб'ём яе знізіўся на 3 працэнты, у прамысловасці — на 1,5.* ***Адзінае, што мы маем: у асабістых падсобных гаспадарках агароды пад бульбай выраслі на 55 тысяч гектараў, а яе валавая вытворчасць — болей як на мільён тон.*** *Гэта ў сувязі з дадатковым выдзяленнем зямель. Ды яшчэ пры тым бяздзеянні зямельнага закона, аб якім усюды гавораць. А колькі яшчэ зямель пустуе!..*

ПАСЛЯ ЗАБАСТОВАК І ПІКЕТАВАННЯЎ БЕЛАРУСКІЯ НАСТАЎНІКІ СУСТРЭЛІСЯ Ў МЕНСКУ З КІРУЮЧЫМІ РАБОТНІКАМІ. **Многа было палкіх выступленняў. І вось абнародаваны калектыўны зварот. Больш за ўсё ў ім уражваюць радкі: «Гадамі не вырашаецца пытанне адвядзення зямлі для індывідуальнага будаўніцтва, пад дачы і агароды.» На тое ж, каб выдзеліць зямлю, не патрэбны ніякія сродкі. Дык не. Нават дом настаўніку не даюць пабудаваць! Можна запытаць любога свядомага грамадзяніна: што заслугоўваюць за сваю скупасць такія кіраўнікі? І будзе дадзены дакладны адказ.**

***У ТОЙ ЧАС, ЯК НА УКРАІНЕ УРАД ВЫДЗЯЛЯЕ ГАЗЕТАМ МІЛЬЁНЫ РУБЛЁЎ СА СРОДКАЎ БЫЛОЙ КАМПАРТЫІ, У НАС У ЖУРНАЛІСТАЎ ЗАБІРАЮЦЬ НАВАТ ТОЕ, ШТО ДАЛІ РАНЕЙ.*** **Патрабуючы ад іх запаўнення дэкларацыі аб ганарарах у адпаведнасці з законам СССР(!) аб падаходным падатку, налічваюць ім новыя сумы падаткаў, быццам бы памылкова з іх не ўзятыя ў мінулым годзе. Тады як новыя стаўкі зарплаты многім, у прыватнасці нашай газеце, да гэтага часу не могуць устанавіць. *Ці не праў Ніл Гілевіч, які гаварыў нядаўна, што ў нас дзеячы культуры «ператвараюцца ў жабракоў, а невукі становяцца мільянерамі».***



У Мясоцкай школе Маладзечанскага раёна чуйна ставяцца да роднай мовы, да нацыянальнай культуры. Працуе краязнаўчы гурток, урачыста адзначаны сотыя ўгодкі Браніслава Тарашкевіча.

На здымку: настаўніца Яўгенія Васільеўна Костачка з выдатніцай беларускай мовы Таняй Сяргей.

Фота М. ХАМЦА.

**Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь прыняў Пастанову аб беларускай мове ў сродках масавай інфармацыі.**

**Чытайце яе на стар. 2.**

## Ахова закона надзейная, —
### запэўніваюць у пракуратуры і МУС Беларусі

Адным з першых ступіла на шлях беларусізацыі Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.

Першы крок у гэтым напрамку — пераход на родную мову справаводства, у сувязі з чым сталі «беларускамоўнымі» пішучыя машынкі, пячаткі, штампы, фармуляры, некаторыя афіцыйныя бланкі. На беларускай мове «загучалі» акты пракурорскага нагляду за выкананнем рэспубліканскага заканадаўства, усе заканадаўчыя акты. У 1991 годзе беларускую мову вывучалі 37 загадчыкаў канцылярый пракуратур абласцей, гарадоў і раёнаў.

У падраздзяленнях Міністэрства распрацавана прагарама вывучэння беларускай мовы ва ўсіх групах супрацоўнікаў. Па дамоўленасці з Акадэміяй навук Беларусі для слухачоў і выкладчыкаў навучальнага цэнтра МУС арганізаваны заняткі па гісторыі Беларусі.

Вялікія надзеі і ў рэспубліканскай пракуратуры і ў Міністэрстве ўнутраных спраў ускладаюць на дапамогу з боку творчай інтэлігенцыі. Часта праводзяцца сустрэчы з пісьменнікамі, мастакамі, вучонымі.

Відавочна, што адносіны ў работнікаў пракуратуры і міліцыі да роднай мовы самыя сур'ёзныя, дзяржаўныя. Мо возьмуць іх за прыклад у астатніх міністэрствах, органах дзяржаўнай улады?

А. К.

**БЗВ СПАДЗЯЕЦЦА НА ДАПАМОГУ**

*У дзейнасці Беларускага згуртавання вайскоўцаў адбылася значная падзея: адкрыты банкаўскі рахунак арганізацыі. Пакуль што на ім — невялікая сума складак сяброў БЗВ.*

*Падказваем рахунак БЗВ: г. Менск, камерцыйны банк «Дукат», Беларускае згуртаванне вайскоўцаў, 700210 МФО 153001767.*

Наш карэспандэнт.

**«СПАДАР ШУШКЕВІЧ, ДАЙЦЕ АДКАЗ!»**

*Стар. 6.*

**Вяртанне да роднага слова...**

*Стар. 2.*

## ЛіМу-60!

***26 лютага споўнілася 60 гадоў з дня выхаду першага нумара газеты «Літаратура і мастацтва». Наш карэспандэнт сустрэўся з галоўным рэдактарам гэтага выдання, вядомым пісьменнікам Міколам Гілем і задаў яму некалькі пытанняў.***




**Гутарку з галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» М. С. ГІЛЕМ чытайце на 2-й стар.**

# Поспехі ёсць, але беларусізацыя натыкаецца на ўсё большае супраціўленне

*Гутарка з галоўным рэдактарам газеты «Літаратура і мастацтва» М. С. ГІЛЕМ.*



**— Шаноўны Мікола Сымонавіч, дазвольце ад імя калектыву рэдакцыі газеты «Наша слова» павіншаваць Вас і ўсіх супрацоўнікаў «ЛіМа» з 60-годдзем Вашай газеты.**

**Перш за ўсё скажыце некалькі слоў пра пачатак сваёй працы ў «ЛіМе».**

— Ад імя лімаўскага калектыву шчыра дзякую за віншаванне. «Наша слова» — першае з выданняў, якое віншуе «ЛіМ» з юбілеем. Выпадковасць? Калі так, дык — прыемная выпадковасць. Бо супрацоўнікі нашых выданняў не проста калегі, але, несумненна, і аднадумцы, клопаты і турботы ў нас, бадай, адны і тыя ж.

Для мяне юбілей штотыднёвіка — свята асаблівае. Прыйшоў я ў рэдакцыю газеты «Літаратура і мастацтва» даўно. Ужо нават і самому не верыцца, што з таго часу мінула больш за тры дзесяцігоддзі. Натуральна, што «ЛіМ» стаў, як кажуць, другім домам. «ЛіМ», здаецца, валодае нейкай прыцягальнай сілай, і той, хто трапляе ў поле гэтага прыцягнення, прыкіпае да штотыднёвіка душою. Больш за сорак гадоў аддаў «ЛіМу» наш усім вядомы фотакарэспандэнт Уладзімір Андрэевіч Крук, у многіх сённяшніх супрацоўнікаў — па дваццаць і больш гадоў лімаўскага стажу...

**— На Ваш погляд, у якія гады і пры якім рэдактары, не ўлічваючы цяперашняй папулярнасці, «ЛіМ» быў у авангардзе беларусізацыі?**

— «ЛіМ» дзяліў лёс усіх астатніх савецкіх выданняў, і ягоныя супрацоўнікі таксама былі праваднікамі ідэй партыі, барацьбітамі за ажыццяўленне камуністычных ідэалаў. Першы ж нумар «Літаратуры і мастацтва» выйшаў, як вядома, у лютым 1932 года, калі працэс беларусізацыі трагічна скончыўся, калі многія яго пачынальнікі і энтузіясты ўжо сядзелі ў турмах, пакутавалі ў ссылках і лагерах. Пра якую ж беларусізацыю можна гаварыць? Быў, праўда, адзін перыяд, калі газета набыла пэўны аўтарытэт — у шасцідзесятыя гады, у часы так званай адлігі, калі рэдактарам «ЛіМа» быў Нічыпар Еўдакімавіч Пашкевіч. Але адліга тая хутка скончылася, і «ЛіМ» неўзабаве згаснуў зноў. І толькі з пачаткам «перабудовы», з прыходам на пасаду галоўнага рэдактара Анатоля Ільіча Вярцінскага штотыднёвік нарэшце выйшаў, як Вы кажаце, у авангард барацьбы за беларусізацыю. Сапраўды, «ЛіМ» тады ці не адзін пісаў пра заняпад нашай мовы, пра ліквідацыю беларускай нацыянальнай школы, пра разгул нацыянальнага нігілізму,— іншыя газеты яшчэ доўгі час не рашаліся гаварыць пра гэта...

**— Як Вам, галоўнаму рэдактару «ЛіМа», працуецца пасля Анатоля Вярцінскага?**

— З прыходам Вярцінскага

# ПАСТАНОВА
## Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь
### Аб беларускай мове ў дзяржаўных сродках масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь

Выходзячы з палажэнняў Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь і Дэкларацыі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным суверэнітэце Рэспублікі Беларусь, Прэзідыум Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь п а с т а н а ў л я е:

1. Звярнуць увагу кіраўнікоў дзяржаўных сродкаў масавай інфармацыі Рэспублікі Беларусь на неадкладнае выкананне Закона Рэспублікі Беларусь «Аб мовах у Рэспубліцы Беларусь».

2. Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь:

— прадугледзець у 1992—1993 гг. выдзяленне фінансавых сродкаў і тэхнічнае забеспячэнне для якаснай падрыхтоўкі і трансляцыі праграм Беларускага тэлебачання і радыё на ўсёй тэрыторыі рэспублікі і за яе межамі;

— сумесна з мясцовымі органамі ўлады і кіравання прыняць неабходныя меры па выкананню запланаваных аб'ёмаў будаўніцтва аб'ектаў тэлебачання і радыёвяшчання Беларусі;

— разгледзець пытанні, звязаныя з фінансаваннем і тэхнічным забеспячэннем спецыяльных перадач дзяржаўнага тэлебачання і радыё на мовах нацыянальных супольнасцей рэспублікі, іх трансляцыі на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь у месцах кампактнага пражывання адпаведных нацыянальных груп грамадзян рэспублікі;

— ажыццявіць меры, накіраваныя на тэхнічнае і матэрыяльнае забеспячэнне выдання, распаўсюджвання і экспедзіравання газет і часопісаў на беларускай мове, прадугледжаных Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы;

— прадугледзець першачарговае і поўнае забеспячэнне паперай і пераплётнымі матэрыяламі выдання грамадска-палітычнай, тэхнічнай, навуковай, вучэбнай, мастацкай і навукова-пазнавальнай літаратуры, альбомаў, паштовак, канвертаў, календароў і картаграфічнай прадукцыі на беларускай мове;

— забяспечыць прыярытэтныя ўмовы для гандлю і рэкламы, а таксама ільготныя тарыфы па аплаце за экспедзіраванне, распаўсюджванне па падпісцы і ў розніцу перыядычных выданняў на беларускай мове ў адпаведнасці з Дзяржаўнай праграмай развіцця беларускай мовы і іншых нацыянальных моў у рэспубліцы;

— прадугледзець пры неабходнасці выдзяленне сродкаў для пакрыцця страт, якія панясуць дзяржаўныя выдавецтвы, заснавальнікі перыядычных выданняў, Міністэрства сувязі і інфарматыкі Рэспублікі Беларусь і Беларускае рэспубліканскае аб'яднанне «Саюздрук» у выніку выпуску, распаўсюджвання і экспедзіравання літаратуры, газет і часопісаў на беларускай мове.

3. Міністэрству інфармацыі Рэспублікі Беларусь на аснове матэрыяльна-тэхнічнай базы Беларускага дома друку забяспечыць першачарговае выданне перыёдыкі, літаратуры і іншай друкаванай прадукцыі на беларускай мове.

4. Кантроль за ажыццяўленнем гэтай Пастановы ўскласці на камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, па галоснасці, сродках масавай інфармацыі і правах чалавека.

Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь С. ШУШКЕВІЧ.

10 лютага 1992 г.
г. Мінск.

## WIS
## дзе і што?

*Рашуча ўзяліся вывучаць беларускую мову і карыстацца ёю ў Гродзенскім вучылішчы культуры. Сто чалавек — тры навучальныя групы — штотыдзень наведваюць адпаведныя курсы. Заняткі праводзяць выкладчыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы.*

*Агульная зацікаўленасць дае плён. 30 педагогаў пачалі выкладаць свае прадметы па-беларуску. На мове продкаў цяпер праходзяць пасяджэнні метадычнага савета. Па-беларуску вядзецца і справаводства.*

* * *

*У Гродне адбылася абласная алімпіяда па беларускай мове, у якой удзельнічалі вучні 9—11 класаў. Спаборніцтвы праходзілі ў СПТВ-64.*

*Першае месца падзялілі дзесяцікласніца з Індурскай школы Гродзенскага раёна Святлана Стасевіч, дзевяцікласнік сярэдняй школы № 18 Аляксандр Мацкевіч і вучаніца 11 класа СШ № 11 Іна Качко з Гродна.*

*На другім месцы былі Аксана Бердзік, Віталь Пятроўскі, Марына Пахутка; на трэцім — Таццяна Лукашэвіч, Ірына Пажарыцкая, Вольга Юніцкая, Наталля Кузьміч.*

*Цікава, што пераможцы конкурсу прыехалі з розных куткоў вобласці: Ваўкавыска, Воранава, Ашмянаў, Слоніма, Наваградка, Смаргонскага раёна.*

*Былі вызначаны таксама пераможцы ў асобных заданнях алімпіяды. Цяпер наперадзе рэспубліканская алімпіяда, якая адбудзецца ў сакавіку ў Віцебску.*

В. ЗАДАЛЯ,
сябар Гродзенскай гарадской рады ТБМ.

*Вопыт*

# БЕЛАРУСКАЯ ПОЛІТЭХНІЧНАЯ АКАДЭМІЯ ПАКАЗВАЕ ПРЫКЛАД

Нядаўна адбыўся агульны сход Таварыства беларускай мовы Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі. Са справаздачай і праграмай далейшай работы Таварыства выступіў яго старшыня Анатоль Шастаковіч. Адзначалася, што за апошнія два гады Таварыствам, якое налічвае каля 50 чалавек, зроблена не так і мала. За гэты час яго сябры Уладзімір Самайлюковіч, Аляксандр Сабалеўскі і Уладзімір Пазняк падрыхтавалі руска-беларускі тэрміналагічны слоўнік па фізіцы на 25 тысяч слоў, выкладчыкі кафедры вышэйшай матэматыкі Васіль Траццякевіч, Тамара Сухая, Раіса Еўдакіменка, Ніна Гудзень склалі руска-беларуска-рускі тэрміналагічны слоўнік па матэматыцы. Абодва слоўнікі выйдуць з друку ў будучым годзе. Прафесар матэматыкі Мікалай Мікулік напісаў падручнік па матэматыцы на беларускай мове, які таксама рыхтуецца да друку; аўтарскі калектыў кафедры № 2 матэматыкі падрыхтаваў курс лекцый па матэматыцы на беларускай мове, які таксама мяркуецца выдаць у бліжэйшы час.

Ужо другі год на беларускай мове чытаюць лекцыі па філасофіі, гісторыі культуры і гісторыі Беларусі дацэнты Мікола Анцыповіч, Анатоль Шастаковіч, Уладзімір Ярмалаеў, Уладзімір Сівагракаў. Курс матэматыкі на роднай мове чытае старшы выкладчык Тамара Сухая. Распрацоўваюць беларускамоўныя курсы лекцый і планы практычных заняткаў: па матэматыцы — Анатоль Андрыянчык, па супрамату — Мікола Шунько, па фізіцы — Аляксандр Сабалеўскі. З наступнага навучальнага года на беларускамоўнае выкладанне пяройдуць многія выкладчыкі кафедр грамадскіх навук.

Як адзначалі выступаючыя, Міністэрству народнай адукацыі трэба неадкладна вырашыць пытанне выкладання беларускай мовы на ўсіх курсах ВНУ з абавязковым залікам або экзаменам. Адначасовае ўвядзенне на ўсіх курсах беларускай мовы, правядзенне на дзяржаўнай мове вучоных саветаў, пасяджэнняў кафедр, абавязковае ўвядзенне мовы ў паўсядзённую работу дэканатаў і іншых службаў акадэміі дапаможа стварыць моўнае асяроддзе ў сценах акадэміі, студэнту лягчэй будзе авалодаць мовай, яна ўвойдзе ў яго паўсядзённы побыт, стане для яго роднай.

Выказвалася думка і аб тым, каб на старонках нашых газет, часопісаў, па радыё і тэлебачанні паведамлялі, як у той ці іншай установе, на заводзе ажыццяўляецца Закон аб мовах. Цяпер складваецца такая сітуацыя, што з такой цяжкасцю прыняты Закон, так і не ўвайшоўшы ў нашу беларускую хату, пачынае старэць, людзі пачынаюць забывацца пра яго, ён не працуе. Гэта вельмі трывожна.

Было выказана шмат іншых канкрэтных заўваг і прапаноў, прынята разгорнутае рашэнне, накіраванае на актывізацыю работы ўсіх службаў акадэміі на тое, каб у Беларускай політэхнічнай акадэміі гучала беларуская мова.

А. ВАСІЛЕЎ.

## *ЛіМу — 60!*

«ЛіМ» набыў нібы другое дыханне. Дапамагло, вядома, і тое, што прыход Вярцінскага супаў з пачаткам гэтай самай «перабудовы», аднак жа менавіта Анатоль Ільіч здолеў згуртаваць калектыў, адшукаць і прыцягнуць да супрацоўніцтва новых і вярнуць старых аўтараў, чыімі намаганнямі «ЛіМ» акрыяў, набыў голас, імпэт, баявітасць, а разам з гэтым і чытачоў, выйшаў на тыя абсягі жыцця, якіх раней амаль не кранаўся. Штотыднёвік першым сказаў не толькі пра трагічны стан нашай мовы, але і пра Курапаты...

Зрэшты, чытачы «Нашага слова» ведаюць, якім стаў «ЛіМ» пры Вярцінскім...

Мы стараемся трымацца абранага кірунку, прадаўжаць і памнажаць набытае. Час, праўда, мяняецца імкліва, мы жывём ужо ў незалежнай Беларусі, але задачы нашы застаюцца, па сутнасці, ранейшымі: спрыяць духоўнаму адраджэнню народа, ажыццяўленню Закона аб мовах, таму, каб жыццё ў Беларусі набывала ва ўсіх сферах адметныя нацыянальныя рысы, каб дзеля адбудовы незалежнай і дэмакратычнай беларускай дзяржавы ядналіся ўсе пласты насельніцтва рэспублікі, яе творчая, навуковая, тэхнічная інтэлігенцыя. Сёння гэты клопат набывае, так бы мовіць, больш практычны ўхіл. Значыць, трэба заўважаць новыя праблемы і новыя падыходы да старых, напаўняць старонкі штотыднёвіка канкрэтыкай дня. А гэта якраз і нялёгка. Скажам, тая ж беларусізацыя нашага жыцця натыкаецца на ўсё большае, хоць пакуль і маўклівае, супраціўленне...

**— Каго б Вы назвалі з аўтараў, хто дапамагаў апошнім часам рабіць «ЛіМу» твар?**

— Такіх аўтараў, дзякаваць Богу, нямала. Пералік — справа рызыкоўная і няўдзячная, незнарок можна і пакрыўдзіць некага. Да ўсяго, калі я пачну іх пералічваць — скажам, ад Пімена Панчанкі і Васіля Быкава да Уладзіміра Арлова і Анатоля Сідарэвіча, дык выявіцца, што многія з іх, а можа і ўсе,— і аўтары «Нашага слова» таксама...

**— Ці ёсць у «ЛіМа» ворагі?**

— Давайце не будзем ужываць гэтае слова — «ворагі». Яно адразу выклікае вельмі ж цяжкія асацыяцыі. Час той, калі шукалі ворагаў, мінуўся, і, трэба думаць, назаўсёды. А вось нядобразычліўцы, зласліўцы розныя ёсць і сёння. І, на жаль, іх нямала. І звоняць, і пішуць, і судом пагражаюць. Хто яны? А ўсе тыя, каму не па нутру лінія «ЛіМа» на наша нацыянальнае адраджэнне, на пошук выйсця нашага народа з духоўнага нябыту. Ёсць сярод іх і нашы, тутэйшыя манкурты (іх ці не найбольш), і звышінтэрнацыяналісты, і занадта порсткія лжэадраджэнцы. Называць іх — ці не зашмат гонару будзе?

**— Некаторыя пісьменнікі час ад часу ў прыватных размовах скардзяцца на тое, што «ЛіМ» за час перабудовы запалітызаваўся і амаль забыўся на такі жанр, як літаратурная рэцэнзія. Як Вы гледзіце на гэта пытанне?**

— Мажліва, для такіх закідаў ёсць падставы. Але мне думаецца, што гэта наша не віна, а бяда. І не толькі лімаўская. Літаратура наша страчвае, а калі шчыра — амаль страціла чытача. Людзі наогул сталі мала чытаць. Такое ўражанне, што нават і мы, літаратары, перасталі чытаць адзін аднаго. Адсюль і няма цікавасці да рэцэнзіі. Іх неахвотна пішуць нашы крытыкі, амаль перасталі прысылаць водгукі на кнігі і чытачы. І ўсё ж прапагандаваць беларускую кнігу мы не забываем, робім гэта праз іншыя жанры ў такіх лімаўскіх рубрыках, як «Ля кніжнай паліцы», «Кнігапіс», «Кніжная навінка тыдня», «Друк» і інш.

А што тычыцца запалітызаванасці «ЛіМа», дык наўрад ці можна з гэтым пагадзіцца, як і з тым, што, маўляў, людзі нашы празмерна спалітызаваныя. Мусіць, якраз наадварот. Усім нам яшчэ трэба вучыцца і вучыцца дэмакратыі...

**— Калі не сакрэт, што можна чакаць ад «ЛіМа»?**

— Сакрэтаў, вядома, няма. У самы бліжэйшы час чытачы будуць мець магчымасць пазнаёміцца з неапублікаванымі вершамі Ларысы Геніюш. Пачынаем публікацыю (у двух нумарах) артыкула Леаніда Лыча пра пакутлівы шлях Беларусі да сваёй дзяржаўнай незалежнасці. Назаву і яшчэ дзве публікацыі: Барыс Сачанка прапанаваў артыкул пра рэдактара-выдаўца «Нашай нівы» Аляксандра Уласава, а Ларыса Этэнка — пра апошнія дні жыцця і смерць ксяндза Адама Станкевіча, вядомага літаратара і грамадскага дзеяча. Падрыхтаваны да друку таксама артыкул супрацоўніка гістфака БДУ Эдуарда Дубянецкага пра асаблівасці характару беларусаў, эсэ-гіпотэза Івана Ласкова пра паходжанне беларускай мовы і некаторыя іншыя цікавыя, як нам думаецца, матэрыялы.

«ЛіМ» будзе старацца заставацца «ЛіМам» і не ашукваць спадзяванні сваіх чытачоў. А яны ў нас, дзякаваць Богу, ёсць, гэта — самае галоўнае з таго, чаго мы дамагліся. Бо залежнасць тут самая што ні ёсць простая: ёсць у газеты чытачы — значыць, ёсць газета.

**Распытваў Віктар ШНІП.**

---

*Чыталі?*

# «Яны маўчаць не схацелі»

***Апошнія тры-чатыры гады ў палітычным жыцці Беларусі даказалі, што наш край багаты на людзей, якія маюць сваю думку і гатовы за яе весці сапраўдную барацьбу. Гэтая акалічнасць і нарадзіла кнігу-інтэрв'ю Аляксандра Уліцёнка «Іншадумцы — Мыслящие иначе», што напрыканцы 1991 года выйшла ў выдавецтве «Беларусь.***

НАЗВУ зборніка, здаецца, надта тлумачыць не трэба... Дадатковую характарыстыку надае яму пералік імёнаў субяседнікаў Аляксандра Уліцёнка: Юрый Хадыка, Анатоль Сідарэвіч, Алесь Емяльянаў, Валянцін Акулаў, Віктар Івашкевіч, Мікола Шаляговіч, Уладзімір Арлоў, Сяргей Навумчык, Вінцук Вячорка, Міхась Кукабака, Станіслаў Шушкевіч, Міхась Ткачоў, Зянон Пазьняк (у такой паслядоўнасці пададзены ў кнізе гутаркі з іншадумцамі). У кожнага з іх — свой шлях. Але кожнаму з іх аднолькава дарагі лёс Беларусі.

Многія старонкі кнігі — шчыры боль, надзвычайны клопат іншадумцаў пра сённяшні і заўтрашні дзень беларускай культуры, нашай роднай мовы. Цікава, што для большасці субяседнікаў А. Уліцёнка шлях да дэмакратычнага руху пачынаўся з павагі і ўвагі да роднага слова. Да прыкладу, Віктара Івашкевіча ў «нацыяналізм» прывяла «Майстроўня» — аб'яднанне моладзі на пачатку 80-х гадоў, якое ставіла на мэце адраджэнне нацыянальнай культуры. На словы А. Уліцёнка: «Паўнацэнная беларушчына — гэта перш за ўсё прыярытэт роднай мовы. Не думаю, каб ты валодаў ёю...» — В. Івашкевіч адказаў: **«Правільна, я адразу зразумеў: у «Майстроўні» немагчыма быць аўтарытэтным без ведання беларускага слова, з якім мы ўпэўнена размінуліся яшчэ ў школе... Куды дзявацца — пачаў вывучаць. Разам з жонкай. Адразу выключна дзеля магчымасці праводзіць праз аб'яднанне свае палітычныя ідэі. Але паступова адчуў арганічную неабходнасць размаўляць менавіта па-беларуску».**

Неабходнасць жыць у паяднанні з родным словам вызначае і лёс Міхася Ткачова, Уладзіміра Арлова, Вінцука Вячоркі... І кожны згадвае ў інтэрв'ю тыя моманты жыцця, калі давялося перагледзець адносіны, стаўленне да роднай мовы. «Калі прыехаў праз год на свае першыя студэнцкія канікулы,— успамінае М. Ткачоў,— то так гаварыў на нейкім суперрускім жаргоне, што маці схапілася за галаву: **Сыночак, родненькі, размаўляй па-гарадскому там, у Менску, а дома, калі ласка, прашу цябе — будзь чалавекам!» Халодны, як разумееце, душ, і ўсё стала на сваё месца». Як не хапае зараз гэткага вось халоднага душу, як не стае сялянскай мудрасці многім сучасным вяскоўцам, якія губляюць роднае слова!».**

Гаворачы пра кнігу «Іншадумцы...», нельга абысці ўвагай яе невялікі наклад — усяго дзесяць тысяч паасобнікаў. Адбылося гэта таму, што кнігагандаль замовіў усяго толькі паўтары тысячы... Выдавецтва адважылася на больш рашучы крок. Цяпер само ж і займаецца распаўсюджваннем кнігі. Паўтары тысячы паасобнікаў набыло ТБМ імя Ф. Скарыны. Так што, не знайшоўшы кнігу ў менскіх кнігарнях, спяшайцеся наведаць Рэспубліканскую Раду ТБМ імя Ф. Скарыны.

Для больш шырокага знаёмства з «Іншадумцамі...» мы падаём і ўрывак з гутаркі А. Уліцёнка з Зянонам Пазьняком.

Алесь КАРЛЮКЕВІЧ.

---

*З. Пазьняк.* Без адраджэння культуры палітызацыя — небяспечны працэс. У кожным выпадку.

*А. Уліцёнак.* У Вашым дакладзе прагучала, дарэчы, думка, што ў аспекце культурнага адраджэння лёд крануўся...

*З. П.* У пэўнай ступені — безумоўна. Гэта, скажам, адкрыта і актыўна праяўляецца, калі людзі зацікаўлена гавораць пра мову ці пра гісторыю, у чым ужо відаць пэўная свядомасць. Аднак працэс праяўляецца і ў пасіўнай форме,— маю на ўвазе знікненне тых агрэсіўных адносін да беларушчыны, да кожнага, хто на вуліцы, у краме, аўтобусе карыстаецца родным словам... Колькі гадоў таму назад гэта здзіўляла, насцярожвала больш, чым з'яўленне ў глухой вёсачцы негра. А цяпер назіраецца не проста пазбаўленая эмоцый абыякавасць — беларускамоўнае насельніцтва пачало адчуваць прыязнасць, павагу да сябе. На старых пазіцыях засталіся толькі адкрытыя ворагі — тыя, хто ўсё жыццё сваё знішчалі нацыянальную культуру, народныя звычаі, традыцыі. Пакуль гэта зацята касмапалітычнае пакаленне не аджыве, канфрантацыя на тым полі не выразіцца.

*А. У.* Якое звяно грамадскай структуры вызначальнае ў такой сітуацыі?

*З. П.* Дзвюх думак быць не можа — школа. Выхаванне і адукацыя.

*А. У.* Перад вамі я размаўляў з Ткачовым і пачуў ад яго: калі скіраваць у адпаведным напрамку выхаваўчыя інстытуты, сістэму інфармаванасці насельніцтва, то хапіла б і дзесяці год, каб свядомасць беларусаў набыла выразны нацыянальны характар. Ваша пазіцыя?

*З. П.* Гэта ў ідэальным сэнсе. Аднак з ходу школу не перабудаваць — няма кадраў... Слабасць базы будзе адчувацца да той пары, пакуль не задзейнічаем усе рэзервы. І, галоўнае, пакуль не звернемся па дапамогу да царквы. Яе неабходна як мага хутчэй падключаць да адукацыі. Тады сітуацыя якасна пераўтворыцца — хопіць нават меней гадоў, чым вызначыў Ткачоў.

Кажу пра гэта з такой упэўненасцю, бо ўжо ёсць прэцэдэнты, адпаведны вопыт. Грузінскі, напрыклад. Яшчэ ў сямідзесятых гадах там меліся магчымасці для выхавання падлеткаў царквой. У выніку моладзь Грузіі прыкметна адрозніваецца — няма хіпі, панкаў-шманкаў, яна гэтым не цікавіцца, больш думае пра Бацькаўшчыну... Падзеі пасля дзевятага красавіка засведчылі якасны стан грузінскай моладзі, паказалі: яе ўплыў на ход палітычных падзей у рэспубліцы несумненна прыкметны. А моладзь народаў, якія ў нацыянальна-культурным сэнсе выраджаюцца, у палітыцы практычна не ўдзельнічае. Не спалітызаваная яна і ў Беларусі. Бо нацыянальна ніякая. Скажам, рэферэндум ёю ў асноўным праігнараваны — студэнты раз'ехаліся па хатах і ўсё... Тое ж самае заўважаеш на мітынгах, у часе выбарчай кампаніі — і гэта самае страшнае. Сведчанне таго, што ў народа няма будучыні. І тлумачыцца такое становішча якраз адсутнасцю нацыянальнай свядомасці. А моладзь Прыбалтыкі, той жа Грузіі зусім іншая,— яна будуе Бацькаўшчыну, сваё заўтра. Што да Беларусі, то гэтым якраз заклапочана старэйшае пакаленне: яно было выхавана ў абставінах, калі больш успаміналі мараль, народную глыбінную этыку, калі не паўсюдна яшчэ задушылі беларускія школы.

*А. У.* Падсумоўваем: на ваш погляд, без рэлігіі, без хрысціянства не абысціся?

*З. П.* Так. Мы — краіна, сфармаваная менавіта хрысціянствам. І без яго ўдзелу адраджэння культуры нам не дабіцца. Аб гэтым я ўжо казаў, але, мабыць, ёсць неабходнасць крыху дапоўніць сказанае. Сутнасць у тым, што хрысціянства ў нас разадралі палітычныя сілы, каб мець магчымасць маніпуляваць ім у сваіх інтарэсах. Таму гэтае пытанне, відаць, будзе мець сэнс у агульнакультурным адраджэнні. Каб у нас існавала унія, каб яе не знішчылі ў 1839 годзе і мы былі краінай адзінай рэлігійнай канфесіі, тады пытанне стаяла б значна прасцей. А так размова пра агульнакультурнае адраджэнне, у тым ліку і пра рэлігійнае. Патрэбна беларуская мова ў касцёлах, у цэрквах. Тут, як бачыце, выяўляецца стан нашай агульнай разбітасці. Але калі прыйдзем да незалежнай дзяржавы, усе праблемы будуць вырашацца значна прасцей. Ужо сённяшні вопыт паказвае: знікне ўздзеянне знешніх сіл, то і наш народ, і клер рэлігійны знойдуць паразуменне. Усё ж мы не бачым нейкіх непрымірымых рэлігійных спрэчак. Хоць і стараюцца некаторыя падкінуць сухога галля ў тое вогнішча, што тлее.

*Радавод*

# КАБ НЕ ЗГУБІЦЬ ЧАЛАВЕЧУЮ ГОДНАСЦЬ

**Мова нярэдка выступае тым прыцягальным духоўным цэнтрам, вакол якога аб'ядноўваюцца ўсе, тыя, каму неабыякавы лёс сваёй Бацькаўшчыны, хто сапраўды клапоціцца аб лепшай будучыні грамадства. Так што не дзіва, што і ў нас цяпер далейшае развіццё і пашырэнне сферы ўжытку беларускага слова сярод усіх задач Адраджэння выйшла на першы план. Дзеля таго каб гэтыя працэсы развіваліся больш хутка і паслядоўна, неабходна, на наш погляд, памятаць і ўлічваць вопыт развіцця беларускай мовы ў мінулым.**

**На працягу амаль чатырох стагоддзяў (з XIV і да сярэдзіны XVII) беларуская мова лічылася адзінай афіцыйнай на ўсёй тэрыторыі тагачаснага Вялікага княства Літоўскага. На ёй пісаліся важныя дзяржаўныя акты (у тым ліку і статуты), княжацкія граматы, судовыя пастановы. Цікава адзначыць, што ў тыя далёкія часіны ў Вялікім княстве Літоўскім беларускай мовай шырока карысталіся і ў паўсядзённым жыцці. Напрыклад, татары, якія жылі ў межах Беларусі, нават пісалі свае рэлігійныя кнігі па-беларуску, толькі выкарыстоўвалі пры гэтым арабскі алфавіт. Размаўлялі па-беларуску таксама яўрэі, цыганы.**

**У далейшым, у выніку пераходу Вялікага княства пад уладу каралёў Рэчы Паспалітай, беларуская мова паступова выцяснялася. У справаводстве, у працы судовых органаў усё часцей месца беларускай займала польская мова. Спачатку намаганні мясцовых прадстаўнікоў улады (у асноўным палякаў ці апалячаных беларусаў) былі накіраваны на тое, каб у дзейнасці органаў улады ўжывалася як мага больш польскіх слоў і выразаў, справаводства нейкі час вялося на дзвюх мовах.**

**У канцы XVII ст. значная частка насельніцтва Беларусі стала адкрыта выракацца роднай мовы. У 1697 годзе ўрадавай пастановай беларуская мова канчаткова забараняецца ў справаводстве дзяржаўных органаў і судоў. Затым яе выкарыстанне — зноў жа загадам зверху — абмяжоўваецца ў дзейнасці навучальных установ, выдавецкай справе. А следам пачаўся перыяд татальнага ганьбавання мовы беларускага народа як «нізкай» спачатку польскімі ўладамі, у далейшым, пасля ўключэння Беларусі ў склад Расійскай імперыі — царскімі чыноўнікамі, у тым ліку і халуямі-пярэваратнямі з тутэйшых. Меў усе падставы Якуб Колас сцвярджаць, што ў XVIII ст. беларуская мова, «здавалася б, і існавала толькі для таго, каб пазабавіцца над ёю і пасмяяцца». Таксама і акадэмік У. М. Ігнатоўскі ў сваім «Кароткім нарысе гісторыі Беларусі» пісаў: «У Рэчы Паспалітай беларус быў працавітым быдлам», а ў царскай Расіі ён зрабіўся «рабочим скотом».**

***Гісторыя яскрава сведчыць, што народы, якія па нейкіх прычынах страчвалі ўласную мову, часцей за ўсё паддаваліся асіміляцыйным працэсам і станавіліся «сыравінай» для развіцця іншага народа.***

**Як цяпер становіцца вядомым, русіфікацыя беларускага народа набыла татальны характар пасля задушэння паўстанняў на яе тэрыторыі ў 1830 і 1863 гг. У 1842 годзе Беларусь была перайменавана ў «Северо-Западный край». У 1839 годзе царскім указам было забаронена ўжыванне беларускай мовы ў цэрквах і касцёлах. З сярэдзіны XIX ст. друкаванне і распаўсюджванне беларускіх кніжак праследавалася законам. У. Ігнатоўскі так апісваў адносіны да беларускай мовы ў той час: «Трывала ўстанавіліся забабоны наконт таго, што «мужицкий белорусский язык» не мае права на існаванне ва ўстановах і школах; што толькі культурная руская мова можа быць мовай дзяржаўнай». Аб жывучасці падобных стэрэатыпаў сведчыць і той факт, што яшчэ на пачатку 1920-х гадоў, калі ў рэспубліцы пачалі праводзіць беларусізацыю, бытавала думка аб беларускай мове як аб мове «сялянскай, якая не мае будучыні». Праўда, затым гэтыя навязаныя погляды большасць насельніцтва Беларусі пераадолела, расла яго самасвядомасць. Беларуская мова набыла статус дзяржаўнай і стала зноў ужывацца ў дзейнасці розных устаноў і арганізацый рэспублікі. Аднак вельмі хутка ў краіне пачалі разгортвацца адваротныя працэсы, якія прывялі да поўнага адмаўлення беларусізацыі і надоўга перакрылі духоўнае жыццё нацыі. Тыя, хто яшчэ размаўляў і карыстаўся беларускай мовай, абвінавачваліся ў прыналежнасці да так званага «беларускага буржуазнага нацыянал-дэмакратызму» і высылаліся з Беларусі або знішчаліся фізічна. Наш духоўны Чарнобыль на сумленні тых, хто штыком піхаў народы да «светлай будучыні», а на самай справе працягваў імперскую палітыку рускага царызму.**

**І сёння трэба памятаць, што нармальнае жыццё народа немагчыма без усямернай павагі і любові да роднага слова. Менавіта таму запаветам і адначасова перасцярогай для тых, хто сёння не хоча абцяжарваць сябе працай па адраджэнні нацыянальнай культуры, гучаць словы акадэміка Карскага, што «калі асобныя члены любой народнасці трацяць матчыную мову, яны перастаюць разумець сваю прыналежнасць к данаму народу, для свайго народа з'яўляюцца страчанымі».**

Эдуард ДУБЯНЕЦКІ,
навуковы супрацоўнік
навукова-даследчай
лабараторыі гісторыі
Беларусі БДУ.

*Меркаванні*

# Ці прымае зямля беларуса?

Калі здараецца трапіць на могілкі ў тым ці іншым беларускім месцы, кожны раз, гледзячы на старыя ці новыя надмагіллі з расійскімі ці польскімі надпісамі, робіцца неяк балюча-сорамна за беларуса, які і жыве і нават на той свет сыходзіць, так і не ўсвядоміўшы сваю адметнасць, сваю непаўторнасць тут, на сваёй жа зямлі.

А мо ён несмяротны — беларус? Бо дзе ні кінеш вокам па старых кладах, нідзе ні каменя, ні крыжа, які б сказаў-пасведчыў: «Тут пахаваны беларус, сын зямлі беларускай». І сказаў на яго ж беларускай спрадвечнай мове, а не на якой іншай.

Нехта запярэчыць: бывае, сам бачыў надпісы па-беларуску на надмагільных камянях пісьменнікаў ці ганаровых дзеячаў культуры Беларусі. Бачыў у Менску. А мо дзе здаралася такое ў іншым вялікім горадзе. Але ж то ўнікальныя выпадкі!

Так думалася і мне, калі ў Браславе зусім нечакана, блукаючы па старых могілках цёплым летнім вечарам, натрапіў я на дзіўныя два абеліскі. На іх пад выявамі высакародных твараў на чыстай беларускай мове былі выбіты імёны і прозвішчы пахаваных тут беларусаў. Толькі два сярод безлічы расійска-польскіх надмагілляў. Хто яны, тыя двое — ён і яна, муж і жонка, што пацвердзілі насуперак мяшчанскай завядзёнцы сваю беларускасць і пасля скону?

Перад ад'ездам з Браслава я пайшоў на могілкі яшчэ раз, каб сфатаграфаваць тыя дзіўныя абеліскі. Каля суседніх магілаў заўважыў жанчын, старую і маладую, ад якіх даведаўся пра пахаваных беларусаў.

Але спачатку пра тое, аб чым расказалі самі надмагіллі. Адразу было зразумела, што абеліск на магілу жонкі Стэфаніі Міхайлаўны, якая памерла ў 1957 годзе ва ўзросце 55 год, паставіў сам Юхневіч Канстанцін Аляксандравіч. Выбіты ніжэй надпіс паведамляе і пра тое, што раней тут была пахавана дачка Юхневічаў Алёдзія-Анна, якая памерла ў 1934 годзе ва ўзросце 9 год.

Сам Канстанцін Аляксандравіч пахаваны побач з магілаю дачкі і жонкі ў 1971 годзе ва ўзросце 75 год. Абеліск на яго магіле зроблены ў стылі папярэдняга, але тэхніка яго выканання менш дасканалая, і без крыжа (іншы час, а мо і сродкі). Але надпіс на ім таксама выбіты па-беларуску. Гэта ўжо знак павагі да волі памёршага, якую ён выказаў у адносінах да памяці жонкі і дачкі. Дзякуй тым, хто гэта зразумеў.

На выяву самога Юхневіча на абеліску глядзелася з асаблівай павагай, бо выказаць сваю нацыянальную годнасць у той час і там, дзе было «не прынята», мог толькі чалавек падкрэсленай самасвядомасці і грамадзянскай мужнасці (мо пра яе ў першую чаргу і ўвесь мой ліст у рэдакцыю «Нашага слова»).

А вось тое нямногае, што сказалі пра Канстанціна Юхневіча дзве кабеты каля суседняй магілы;

— Быў ён, па няпэўных звестках, варшаўскім паслом у Вільні, але родам з Браслава, дзе і пахаваў дачку і жонку. Сам жа ў 1971 годзе загінуў у аўтамабільнай катастрофе.

Асаблівай увагі заслугоўвае каталіцкі крыж на магіле дачкі і жонкі Юхневіча і тое, што пахаваны яны сярод магіл з польскімі надпісамі (сярод сваіх адзінаверцаў). Тут яшчэ адна нагода паразважаць аб польскасці многіх беларускіх «палякаў» у кантэксце ўрока самасвядомасці, дадзенага нам Канстанцінам Юхневічам. Мір ягонай душы!

Алесь МЕМУС,
мастак з Віцебска.




## Дзе і што?

**«Корпус міру» ЗША збіраецца накіраваць у былыя савецкія рэспублікі звыш 600 добраахвотнікаў, якія павінны дапамагчы ў перабудове эканомікі, наладжванні дэмакратыі. Умовы жыцця валанцёраў будуць нялёгкімі, але недахопу ў заявах на паездку ў СНД няма. Колькасць заяў у дзень вырасла з 250 да 750.**

* * *

**У Латвіі адрадзілася традыцыя адзначаць Дзень памяці латышскіх стралкоў (6 студзеня). На Брацкіх могілках прайшоў Дзень памяці, арганізаваны музеем стралкоў, камітэтам могілак, грамадскімі арганізацыямі. Былі згаданы латышскія стралкі, якія 23 і 24 снежня (па старому стылю) 1916 года, несучы вялікія страты, прарвалі лінію абароны немцаў.**

* * *

**Пакуль Беларускае войска знаходзіцца ў стадыі немаўляці, летувісы мэтанакіравана прафесіяналізуюць сваё. Брыгада хуткага рэагавання аховы краю называецца цяпер падраздзяленнем «Гележынас віянас» («Жалезны воўк»).**

**«Ваўкі» вучацца пілатаваць самалёты, верталёты, вадзіць танкі, добра страляць і абяззбройваць злачынцаў.**

WIS

# Вучымся!

## РАЗМОЎНІК ВЕТЛІВАГА ГОСЦЯ

*Для гасцявання ў Германіі*

1. Калі ласка, да стала!
   Bitte, zu Tisch!
   бітэ, цу тыш.

2. Я хачу есці.
   Ich habe Hunger.
   іх хабэ гунгер.

3. Але я не хачу есці.
   Aber ich habe keinen Hunger.
   абэр іх хабэ кайнэн гунгер.

4. Смашнога!
   Mahlzeit! Lassen Sie es sich schmecken!
   ма:льцайт ласэн зі: ес зіх шмэкен.

5. Я п'ю за ваша здароўе! За ваша здароўе!
   Ich trinke auf Ihr Wohl! Auf Ihr Wohl!
   іх трынке аўф і:р во:ль. аўф і:р во:ль.

6. Можна прапанаваць вам кубачак кавы?
   Derf ich Ihnen eine Tasse Kaffe anbieten?
   дарф іх і:нэн айнэ тасэ кафэ анбі:тен.

7. Выпіце са мной шклянку гарбаты!
   Trinken Sie eine Tasse Tee mit mir!
   трынкен зі: айнэ тасэ тэ:э міт мір.

8. Мы паспеем яшчэ выпіць кубачак кавы.
   Wir haben noch Zeit für eine Tasse Kaffe.
   вір хабэн нох цайт фюр айнэ тасэ кафэ.

9. Гэта смачна.
   Das schmeckt.
   дас шмэкт.

10. Смакуе вам кава?
    Schmeckt Ihnen der Kaffe?
    шмэкт і:нэн дэр кафэ.

11. Яна цудоўная.
    Er ist ausgezeichnet.
    эр іст аўсгецайхнэт.

### У свеце слоў

## Веласіпед

Назва «веласіпед» ідзе ад лац. «велах» — хуткі і «пес» — нага. Леанарда да Вінчы на сваіх малюнках і чарцяжах ужо адлюстраваў гэту машыну. Яна выглядае цалкам сучасна: аднолькавыя колы, ланцужная перадача і зручнае сядло. Аднак толькі ў 1800 годзе прыгонны Верхнетурскага павета на Урале Артамонаў змайстраваў першы ў свеце сапраўдны веласіпед. Праўда, гэта быў нязграбны жалезны самакат, але працаваў спраўна. Заводчыкі вырашылі ім здзівіць цара Аляксандра I і паслалі да яго вынаходніка. Дзве тысячы вёрстаў праехаў Артамонаў на сваім самакаце, тым самым здзейсніў першы ў свеце велапрабег. За гэта вынаходніцтва цар узнагародзіў прыгоннага «вольнай».

І. ШПАНДАРУК.

*Слоўы, якія паслужаць*

*Павел МІСЬКО*

* * *

З народных прыкмет:

Варвары разварацъ, Мікола ўкуе, а Ганны дарогі насцелюць.

* * *

— Мужчыны сённячы саянуюць, а мы какарузу гачкуем. Рук не чуеш за дзень ад гэтых гачак, спаць ляжаш — як сабакі ірвуць. А прысядацель кажа: «Не вельма вы ўтрудзіліся скопам». Разбіваць будзе плантацу на дзялкі, каб кожнай асобна... І каб здавалі масу на цэнцеры.

* * *

— Насця, ты ўжо хадзіла даіць карову?

— Хадзіла. На тырле сённека. Але не стаяць, гізуюць, залупіўшы хвасты, лётаюць па полі. Столькі заедзі — звон стаіць.

* * *

— Гадуеш сёлета бычкі? Аднаго толькі? Э-э... А я трох купіў, нелапыя ўжо, мурласценькія.

— Дак і мой гладун, кіль пад сто будзе ўжэ... І бараны добра лоем абліваюцца, не трэба толькі маркачамі пакідаць, бо злётаюцца за авечкамі.

* * *

— Свіння даўно пагукалася, парасяты скора будуць.

— Дзяржыць хто гука?

— Не, на ферму ганяем, там штучны кныр.

* * *

Ганарар за гэты артыкул прашу пералічыць у рэдакцыйны фонд «Нашага слова»

## Кароткі слоўнік эканомікі

ПРЫВАТЫЗА́ЦЫЯ. Слова пайшло ад лаціян (прыватус — асобны). Як тэрмін юрыспрудэнцыі і эканомікі не разглядалася нават у «Советском Энциклопедическом Словаре» і, вядома ж, у нашым ТСБМ, 1980 г. А цяпер усе пра гэта гавораць. Калі коратка — перадача (з выкупам ці нават задарма, бясплатна) дзяржаўнай маёмасці асобным грамадзянам. Нам гэта пакуль дзіўна, але Заходняя Еўропа даказала, што такім чынам нават стратныя, жабрацкія гаспадаркі праз каторы час пачынаюць даваць прыбытак.

*Меркаванні*

# Мушу запярэчыць

## Івану ПАТАПЕЙКУ («Дзякую — дзеяслоў» у № 2 «Нашага слова»)



1. Этымалагічна *дзякуй* — не загадная форма дзеяслова, а рэдукаваны варыянт таго ж *дзякую* ў тым самым абвесным ладзе. І. І. Насовіч падае варыянт з яшчэ глыбейшай рэдукцыяй: *дзяку табе за гэта*. Сапраўды, калі мне даюць цукерку, а я кажу *дзякуй* — гэта я сам дзякую, а не прапаную, каб дзякавалі мне. Толькі па форме *дзякуй* супадае з формай загаднага ладу, а паводле свае сінтаксічнае ролі гэта часціца (ТСБМ), часам у значэнні назоўніка.

2. Расійскае *спасибо* не таму ў ніякім родзе, што ад дзеяслова загаднага ладу, а таму, што з цягам субстантывацыі *о* на канцы асэнсоўваецца як канчатак, а канчатак *о* ўласцівы ніякаму роду. Таксама і пры вызначэнні роду беларускага *дзякуй* трэба кіравацца марфалогіяй. Нулявы канчатак у назоўным склоне маюць назоўнікі мужчынскага або жаночага, але не ніякага роду. Вось жа, па аналогіі з іншымі падобнымі назоўнікамі, асабліва з асновай на *-й*, як, напрыклад, *каравай, май, гай*, таксама і слова *дзякуй* мусіць выступаць у мужчынскім родзе.

3. У ніякім родзе назоўніка *дзякуй* трэба бачыць уплыў расійскага *спасибо*.

4. Зусім неабавязкова субстантыўны дзеяслоў, хоць бы нават і загаднага ладу, мусіць набываць ніякі род, балазе загадны лад катэгорыі роду не мае.

5. Іншая рэч, што несубстантыўным часцінам мовы (часціцам, прыслоўям і інш.), якія не маюць катэгорыі роду, у выпадку іх аказыянальнае субстантывацыі звычайна надаецца ніякі род: *Выказаць сваё «фэ»; Дадзела мне ўжо тваё «пачакай»*. Але *дзякуй* у ролі назоўніка ўжываецца настолькі паўсюдна, што мусіць падпасці пад агульнае марфалагічнае правіла, як вышэй.

Мікола РАМАНОЎСКІ.

*Для дзяцей і дарослых*

Алесь КІКЛЕВІЧ

# СЛОВЫ І СТРАВЫ

ЗА СТАЛОМ сядзелі трое: Інспектар, Матэматык і Лінгвіст. Былі яны паміж сабой незнаёмыя і трапілі ў рэстаран выпадкова. Афіцыянтка падала першую страву, і спадары ўзялі лыжкі.

— Прабачце,— звярнуўся Інспектар да Матэматыка.— Ці не маглі б вы даць мне хлеба?

— Я? Мог бы,— адказаў Матэматык, не варухнуўшыся.

— Вельмі вам удзячны за згоду,— трохі здзівіўся Інспектар,— але чаму ж вы мне яго не даяце?

— А чаму я павінен вам яго даваць? — здзівіўся таксама Матэматык.

— Як — чаму? Я ж вас прасіў, і вы, здаецца, згадзіліся...

— Па-першае, нічога вы не прасілі, а па-другое, я не згадзіўся. Проста я адказаў на ваша пытанне.

— Так, пытанне, але гэта толькі па форме пытанне, а па сутнасці — просьба,— растлумачыў Інспектар.

— Мы, Матэматыкі, любім дакладнасць. Калі пытанне — то пытанне, на яго трэба адказваць словамі, калі просьба — то просьба, на яе трэба адказваць дзеяннямі. А гэтага вашага «па форме» ды «па сутнасці» мы не разумеем. У нас форма павінна адпавядаць сутнасці, а сутнасць — форме, а гэтым увесь наш матэматычны свет пабудаваны.

«Хоць ты і Матэматык,— падумаў Інспектар,— а дурань, бо ад тваёй дакладнасці нямашака аніякай карысці».

Ён можа б і працягваў дыскусію з Матэматыкам, але побач сядзеў Лінгвіст, які ўважліва сачыў за гаворкай.

— Прабачце за настойлівасць,— звярнуўся Інспектар да Лінгвіста,— ці не маглі б вы даць мне хлеба?

— Канешне,— адказаў той, — але толькі тады, калі вы перастанеце рабіць моўныя памылкі.

— Што яшчэ за памылкі? — атарапеў Інспектар, падумаўшы: «Няўжо яшчэ на адну шэльму нарваўся?»

— Вось вы сказалі «даць хлеба». Гэта і ёсць памылка.

— Чаму так? «Даць хлеба» — што тут памылковага? Усе так гавораць.

— Усе, але не ўсюды? — павучальна сказаў Лінгвіст.

— А што ўсюды? — ні да печы ні да рэчы спытаў Інспектар.

— Гаворка не пра «ўсюды», а пра «цяпер». Чаму вы, шаноўны, сказалі менавіта «даць хлеба», а не «даць хлеб»?

— А якая, каб з цябе чэрці вяроўкі вілі, розніца?! — не ўцерпеў Інспектар.— Я ж у вас не апрычонікі нейкія прашу, а звычайны хлеб! Разумееце — хлеб!

— Менавіта — хлеб,— падняў угару палец Лінгвіст.— Бо калі вы просіце даць хлеба, гэта значыць, што вам усё роўна — якога хлеба, вы нават не бачыце, дзе той хлеб. Што дадуць, тое вам і хлеб.

— А калі я прашу даць мне хлеб?..

— Тады,— тлумачыў далей Лінгвіст,— гэты хлеб вам нейкім чынам вядомы. Гэта значыць: дайце вось гэты хлеб, які ляжыць перад маімі вачыма. Зразумела?

— Зразумела,— адказаў Інспектар.— Паколькі я бачу хлеб, які я прашу, то я павінен быў спытаць: ці не маглі б вы даць мне хлеб? Добра, дайце, калі ласка, мне хлеб, а то мае буракі ўжо астываюць.

— Хвілінку,— не сунімаўся Лінгвіст.— Тут ёсць яшчэ адна памылка.

— Якая?

— Слова «дайце». Калі вы просіце, каб нехта нешта вам даў, то маеце на ўвазе, што гэты нехта валодае гэтым нешта... ці гэтым нештам...— не важна, а вы не валодаеце.

— Ну і што?

— Ну і тое, што вы просіце, каб той, хто валодае, зрабіў так, каб валодалі вы, а ён не валодаў. Вось што значыць «даць».

— Ой, вельмі ж мудрагеліста, а буракі амаль што астылі.

— Дык вось,— ніяк не сунімаўся Лінгвіст,— паколькі хлеб на талерцы — наш агульны, а не мой уласны, то вы не можаце звярнуцца да мяне з просьбай даць вам хлеб.

— А як жа магу?

— Падумайце. Я думаю — значыць, я ем.

«Во ліха,— падумаў Інспектар.— Трэба было ў рабочую сталоўку пайсці, там хоць бы новых слоў набраўся, а тут і ад таго, што ведаю, адракуся. А галоўнае — буракі стынуць».

— Ну добра. Дзякую вам за навуку. Перадайце мне, калі ласка, хлеб.

— Зноў не тое,— паківаў галавой Лінгвіст.

— Што не тое?! — не сцярпеў Інспектар.— Я сюды есці прыйшоў ці?..

— Калі вы гаворыце «перадаць нешта»,— спакойна перабіў яго Лінгвіст,— то маеце на ўвазе, што гэта нешта знаходзіцца ад вас на пэўнай адлегласці і што паміж гэтым нешта... ці гэтым нештам... — не важна, знаходзяцца яшчэ нейкія рэчы. Вось таму і пера-даць. Як пераправіць. Што ж вы хочаце, каб я пераправіў вам хлеб? — зарагатаў Лінгвіст.— Гэта ж глупства, бо няма праз што перапраўляць.

— Я не хачу, каб вы пераплаўлялі... цьфу! перапраўлялі мне хлеб! Я хачу, каб... каб...

— Ну-ну, смялей...

— Я хачу хлеба! — на ўвесь рэстаран прадэкламаваў Інспектар.

— Дык і павінны былі папрасіць: падайце мне, калі ласка, хлеб. Вось гэта было б тое што трэба,— падказаў Лінгвіст.

«Не,— падумаў Інспектар,— Матэматык — дрэнны чалавек, але яшчэ цярпець можна. Але ўжо гэты другі дык і вантробы павыцягвае. Пагаварыш з такім — дык потым рот раскрыць будзе страшна».

Тым часам афіцыянтка прынесла другую страву. Інспектар адсунуў акалелыя буракі і пачаў есці катлету. Катлета была халодная. «Ніколі не спадзяваўся,— падумаў Інспектар,— што на свеце так шмат Матэматыкаў і Лінгвістаў».

# БАТЛЕЙКА Ў МАГІЛЁВЕ





Батлейка — лялечны тэатр, карані якога знаходзяцца ў сівой мінуўшчыне. На жаль, сёння ўжо падрастае трэцяе пакаленне, якое не ведае гэтага старажытнага мастацтва.

І вось 17 студзеня 1992 года ў Магілёве адбылася прэм'ера батлейкі.

Вучням сярэдняй школы № 25 быў паказаны сюжэт пра нараджэнне Хрыста і пра цара Ірада, а затым казкі «У цябе ёсць сонца» і «Балота». Над спектаклямі працавалі і былі ў ім заняты супрацоўнік Дома піянераў Ленінскага раёна Магілёва Валянціна Нізоўцава і пяцікласніцы Алена Гарачая і Ірына Учуро. Дапамаглі вырабіць батлейку сябры культурна-асветніцкай суполкі беларусаў Магілёва «Машэка».

Ігар ПУШКІН,
сябра суполкі «Машэка».

**У РЭДАКЦЫЙНЫ ФОНД «НАШАГА СЛОВА» АХВЯРАВАЛІ:**

**Спадар А. СПІГАНОВІЧ (Манчэстэр, Англія) — 15 фунтаў стэрлінгаў; Айцец А. НАДСАН (Лондан, Англія) — 20 фунтаў стэрлінгаў.**




### *ЛЯЧЭННЕ ПЧАЛІНЫМ МЕДАМ, ЯДАМ, МАТАЧНЫМ МАЛАЧКОМ, ПРОПАЛІСАМ*

***Амаль усе прадукты пчалярства з глыбокай старажытнасці ўжываліся з лекавай мэтай. Але навуковае абгрунтаванне іх скарыстання ў медыцыне атрымана параўнаўча нядаўна.***

***Цяпер значна пашырыліся нашы веды аб хімічным складзе прадуктаў пчалярства (асабліва пчалінага яду і матачнага малачка), механізмах іх дзеяння на арганізм здаровага і хворага чалавека, аб магчымасцях іх ужывання з лекавай мэтай пры самых розных захворваннях.***

***Лекавыя прэпараты з прадуктаў, якія выпрацоўваюцца меданоснай пчалой, як правіла, не з'яўляюцца спецыфічнымі лекавымі сродкамі, а толькі павышаюць агульную супраціўляльнасць арганізма да ўздзеяння шкодных рэчываў; яны могуць ужывацца пры самых розных захворваннях. Гэтым і тлумачыцца, галоўным чынам, павышаная цікавасць хворых да лячэння прадуктамі пчалярства. Хворыя іншы раз нават патрабуюць ад урача прызначыць ім лячэнне тым ці іншым новым лекавым прэпаратам, які ўтрымлівае пчаліны яд ці матачнае малачко. Некаторыя, атрымаўшы адмоўны адказ, спрабуюць лячыцца сваімі метадамі без прызначэння ўрача. Такое «лячэнне» можа выклікаць рэзкае пагаршэнне ў стане хворага, а ў асобных выпадках прывесці і да больш сумных вынікаў.***

***Варта падкрэсліць, што ўсе прадукты пчалярства, асабліва пчаліны яд і матачнае малачко, вельмі актыўныя рэчывы і пры няправільным дазіраванні ці павышанай адчувальнасці да іх могуць аказацца таксічнымі для чалавека. Акрамя таго, ужыванне іх пры некаторых захворваннях проста шкодна. Прызначэнне ўсіх гэтых прэпаратаў патрабуе ад урача ўважлівага папярэдняга абследавання хворага і назірання за ім на працягу ўсяго перыяду лячэння.***

*Гэтым матэрыялам мы пачынаем друкаваць парады па мёдалячэнню. Літаратура: «Пчела и здоровье человека» (пад рэд. Т. Вінаградавай і Г. Зайцава, Масква, 1964); К. Кузьміна «Лечение пчелиным мёдом и ядом» (Саратаў, 1973); С. Младзенаў «Мёд и мёдолечение» (Сафія, 1974); зб. «Продукты пчеловодства — пища, красота, здоровье» (Мадрыд, 1974).*

# БЕЛАРУСКІ НАРОДНЫ КАЛЯНДАР

## У сакавіку

Сакавік — першы месяц вясны. Пра яго народная прыказка кажа: «Сакавік дрэвам сок пускае», «Сакавік часамі снегам сее, а часамі сонцам грэе», «Ноччу трашчыць, а ўдзень плюшчыць».

Народныя прыкметы: «Сакавік мокры — хлеб будзе горкі»; «Сухі марац, мокры май — будзе жыта як гай»; «Які сакавік, такі красавік»; «Як ідзе дождж у сакаўцы (сакавіку), то будзе хлеба ў рукаўцы, а як у маі — будзе і на гультая»; «Калі жыта ў марцы глядзіць на неба — не есці тады хлеба».

1 (нядзеля). У праваслаўных апошні тыдзень мясаеда перад Вялікім постам. Пачынаецца *Масленіца*, або *Сырная нядзеля* (з 2 па 8 сакавіка).

Масленіца — старажытнае народнае свята, звязанае з культам прыроды, веснавым адраджэннем яе сіл, якое прымеркавана да царкоўнага.

У Заходняй Беларусі Масленіцы адпавядае назва *Запусты* (Запускі). Каталіцкія Запусты цягнуцца ад свята *Трох каралёў* (7 студзеня) да *Папельца*, які прыпадае заўсёды на сераду. Запуст — міфічны персанаж, які быццам бы прыходзіць да людзей і пасыпае іх попелам. З гэтым вясновым святам у беларусаў звязаны народныя звычаі аб'язджаць маладых коней і валоў у полі; гушкацца на арэлях — каб лён быў доўгім; адведваць бабку-павітуху, каб быць здаровым, і інш. Моладзь каталася на санках, спявала абрадавыя песні. Адна з іх гучыць так:

А ў нас сёння Масленка,
Масленка,
Ой, люлі, рана Масленка,
Масленка,
Ды й з-пад куста ластаўка,
ластаўка,
Ой, люлі, рана ластаўка,
ластаўка.
Сядзіць яна высока, высока,
Ой, люлі, рана высока, высока;
Глядзіць яна далёка, далёка,
Ой, люлі, рана далёка, далёка.
А што ў вёсцы дзеецца, дзеецца,
Ой, люлі, рана дзеецца, дзеецца.
Карагоды водзяцца, водзяцца,
Ой, люлі, рана водзяцца,
водзяцца.

2 (панядзелак). Дзень пакутніка *Фёдара Цірона*. Лічыўся апекуном ад злодзеяў.

4 (серада). *Казімір* у каталіцкім календары. Лічыўся апекуном моладзі. «На Казімера зіма ўмера», «Казімір дровы сячэць, у клады кладзець».

*Папелец* у каталікоў.

8 (нядзеля). У праваслаўных — загавенне перад Вялікім постам. На вячэру ставяць малочныя стравы, тварог, сыр, масла.

Прысвятак *Паўраценне* ці *Абратанне* — ад царкоўнага «Обретение» галавы Іаана Хрысціцеля. У гэты дзень пчаляры заглядваюць у вуллі, каб пабачыць, ці перазімавалі пчолы.

14 (субота). Народны прысвятак *Аўдакея*, да якога царква прымеркавала дзень пакутніцы Еўдакіі. Народныя прыкметы: дождж на Еўдакію — ураджай на жыта; туман — ураджай на гарох і фасолю; мароз — вымаразіць грэчку ў полі; сонца — будзе цёплая вясна; завіруха і мяцеліца — на халодны год. Па некаторых вёсках у гэты дзень гукалі вясну.

15 (нядзеля). Пакутнік *Фядот*, свяціцель *Арсень*. Па надвор'і ў гэты дзень людзі меркавалі, якая будзе сенажаць улетку.

17 (аўторак). Дзень святога *Рыгора* ў праваслаўных («На святога Рыгора зіма ідзе ў мора»).

19 (чацвер). Дзень святога *Язэпа* (Юзафа) у каталікоў («Як Язэп кіўне барадою, дык зіма ўцякае ўніз галавою»).

21 (субота). *Дзяды (тоўстая субота* ў праваслаўных).

22 (нядзеля). Дзень 40 пакутнікаў, што «ў Севасційскім моры мучыліся». Народная назва *Саракі* («На Саракі прыляцелі з-за мора гракі»). Народныя прыкметы: калі ад Грамніц да Саракоў не было дажджу, то летам будзе засуха; растае снег у гэты дзень — да добрай вясны.

25 (серада). *Звеставанне (Благавешчанне, Дабравешчанне)* у каталікоў. Старажытнае веснавое свята, якое азначала надыход вясны; было прымеркавана пазней да царкоўнага. Па легендзе, у гэты дзень архангел Габрыіл паведаміў святой Марыі, што яна народзіць Ісуса Хрыста.

28 (субота). Дзень памінання ў праваслаўных.

30 (панядзелак). *Аляксей* — народны прысвятак. У гэты дзень людзі пачыналі рыхтавацца да веснавых работ, а ў некаторых месцах нават выходзілі сеяць («Аляксей сохі чэша, хамуты строе», «На цёплага Аляксея рыба ідзе на нераст, карова на верас, а бортнік на хвою»).

### *І смех і грэх*

*— Морда ў яе, як лапешка.*
*— А гэта што — лапешка?*
*— Як лапаць... Шырокая і доўгая.*

* * *

*На качулкі саломы ў полі:*
*— Во, людзей скруцілі ў бараноў рог, жыцця няма, і салому ўжо ў крутні зграбаюць... Навучыліся крутнёй жыць, дык усюды каб крутня была, цешыла вока.*

***Алесь МАСАРЭНКА***

## Шпількі

* * *

*— Яйка бальшэннае курыца знясла, вывеліся з яго дзве галавы, у кучу зракліся... І тулавы таксама два, зліплыя... Во яна, радыяцыя, як сказваецца.*

* * *

*— Тыль-мыль — і стаў саўсім другея вузлы вязаць.* (Стаў другое гаварыць, памяняў думку).

* * *

*— Яна ж сама прасудлівая дужа — каго хочаш абгаворыць. А сынок яе — глума глумой, дык пра яго — ні слова, маўчыць. Свой, сказана, выпладак, не чужы.*

* * *

*— А во накурбакала кой-як пісьмо... Хоць і не вучылася, слаба ўжо бачу, а пісьмы сыну пішу сама, дзякуй Богу.*

* * *

*Пра доўгую бараду:*
*— Ай-яй-і, такую мычку прычапіў — да каленяў!*

* * *

*— У нашай пякарні хлеб як адглямешчуць, дык есці няма як, адно парасёнку, можа, і смачны. Ды і тое, хітрун, без малака не бярэ.*

# КРЫЖАВАНКА-ПЕРАКЛАД



**Па гарызанталі:** 7. Заключительный. 8. Мусорный. 9. Овин. 10. Тепло (прыслоўе). 11. Оседлый. 14. Типографский. 17. Вес. 18. Слух. 19. Зарубежье. 21. Возвышенность. 25. Визжание. 26. Озимь. 29. Испокон века. 30. Сглазить. 31. Бугор, остров (песчаный). 32. Ангельский. 33. Неуловимый.

**Па вертыкалі:** 1. Повод, предлог. 2. Терять сознание. 3. Толстая доска. 4. Плотники. 5. Угнетение. 6. Волнистый. 12. Хищник. 13. Уложенный. 15. Лохань. 16. Экзамен. 20. Литой. 22. Кожица, шелуха. 23. Торговец шкурами. 24. Вручённый. 27. Фурункул. 29. Исток.

**Падрыхтавала Людміла ШНІП.**

### АДКАЗ НА КРЫЖАВАНКУ, ЗМЕШЧАНУЮ Ў № 5

**Па гарызанталі:** 4. Марнець. 9. Назола. 10. Цікавы. 13. Загана. 14. Глеба. 16. Натоўп. 17. Цераз. 18. Чабор. 19. Пасада. 21. Ровар. 23. Шолах. 25. Унакід. 27. Валачы. 28. Аскалёпкі. 29. Куцця.

**Па вертыкалі:** 1. Жадоба. 2. Множанне. 3. Хцівец. 5. Галота. 6. Паркан. 7. Дапасаванне. 8. Кветкаводчы. 11. Дамешак. 12. Аўторак. 14. Гонар. 15. Абшар. 20. Адклад. 22. Ваколіца. 24. Слоік. 26. Дакука. 27. Вапняк.

**РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ**

**Рэдактар Эрнэст Ялугін.**

**Сябры калегіі: Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Ніл Гілевіч, Уладзімір Дамашэвіч, Алесь Камароўскі, Анатоль Клышка, Алег Куліцкі, Уладзімір Ламека, Уладзімір Содаль, Алесь Траяноўскі, Генадзь Тумаш, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Міхась Шаўыркін.**

**Адказны сакратар Анатоль Сілянкоў.**

**Наш адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13.**
Тэлефон рэдакцыі: 33-17-83.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара неабавязкова можа адпавядаць меркаванню рэдакцыі.

Рукапісы рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

МВПА імя Якуба Коласа.
Мінская паліграфічная фабрыка «Чырвоная Зорка».
**Наклад 7340 паасобнікаў. Зак. 1166.** Індэкс 63865.